© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



## ГРАМАДА МАЦНЕЕ

Пленум Цэнтральнай Рады БСДГ адбыўся ў Менску 23 студзеня 1993 года. Абраны новы выканаўчы орган партыі — выканкам Грамады ў складзе 23 чалавек.

Цэнтральная Рада Грамады палічыла мэтазгодным увайсьці ў склад заснавальнікаў Фонда братоў Луцкевічаў — стваральнікаў сацыялдэмакратычнага руху на Беларусі.

Створаны восем пастаянных камісій ЦР БСДГ. Сярод іх — камісія па эканамічным і навукова-тэхнічным разьвіцьці (старшыня — прафэсар Уладзімір Кулажанка), камісія па сувязях з прафсаюзамі (старшыня Уладзімір Васьковіч), камісія па міжнародных справах і сувязях з сацыялдэмакратычным рухам за межамі Беларусі (старшыня Міхась Патрэба), камісія па вайсковых пытаньнях (старшыня — падпалкоўнік Мікалай Бюрукоў).

У шэрагі Грамады былі ўрачыста прынятыя настаўніца гісторыі спадарыня Урбан і беларуская паэтка і журналістка Галіна Булыка.

У той жа дзень адбыліся вабласныя канфэрэнцыі Грамады. Менскую вабласную Раду БСДГ узначаліў народны дэпутат Беларусі Лявон Дзейка, Віцебскую — народны дэпутат Беларусі Віктар Какоўка, а Гарадзенскую — спадар М. Сьлесарчук. Ц⁻ Грамады прыняла таксама рашэньне увайсьці ў аргкамітэт па падрыхтоўцы сьвяткаваньня 75-х угодкаў абвяшчэньня БНР.

**Пікеты**

## Каліноўцы

Днямі ў Горадні зьявілася яшчэ адно аб ́яднаньне, якое ўзяло сабе назву імя К. Каліноўскага. Мэтай новага руху зьяўляецца адраджэньне гісторыка-культурнай спадчыны, абароны правоў чалавека, матэрыяльнага дабрабыту, змаганьне супраць антычалавечай камуністычнай ідэялогіі. Ужо створаны арганізацыйны камітэт, у які ўваходзяць 15 чалавек. Яны рыхтуюць статут таварыства і іншыя неабходныя паперы для паданьня іх на рэгістрацыю.

На днях сябры гэтай суполкі правялі сваю першую акцыю, прысьвечаную 155-й гадавіне з дня нараджэньня К. Каліноўскага. Акцыя распачалася ля факультэту беларускай філалогіі і культуры Гарадзенскага дзяржаўнага унівэрсітэта. Адтуль яе ўдзельнікі пад бел-чырвона-белымі сьцягамі рушылі да помніка Леніну, дзе паспрабавалі растлумачыць свае ідэі і мэты жыхарам Горадні.

На жаль, дзесятак актывістаў не здолеў абудзіць у прысутных пачуцьцё патрыятызму, і праз дзьве гадзіны маніфэстацыя скончылася непадалёк ад кінатэатра «Гродна».

Лявон Ляўко, актывіст таварыства імя К. Каліноўскага, расказаў наступнае:

— Сёньняшняе наша шэсьце па Горадні — гэта як знак пратэсту ўладам, якія нічога не зрабілі для адраджэньня сьветлай памяці беларускага нацыянальнага героя К. Каліноўскага. Мы ж сваім выступам нагадалі грамадзтву яго вытокі, сабралі подпісы і частку грошай на помнік славутаму земляку.

Дарэчы, пры падліку высьветлілася, што гарадзенцы і госьці горада ахвяравалі на помнік К. Каліноўскаму 1469 рублёў.

**Г. АСТРОЎСКІ.**



Адганарыліся...
Фотаграфаваў **А. УЛАДАСЕВІЧ.**

## Пішу табе з расейскага горада Горадні...

*У гарадзенскіх газэтных шапіках зьявіліся паштовыя канверты. Падзея не абы якая, бо канверты ў нас прадаюць толькі на пошце. Але ж тое — беларускія. А ў шапіках зусім іншыя — на малюнку канверта рэкламуецца «Расейскі клюб маладых мільянэраў», ёсьць і познамка (марка) з нейкім расейскім помнікам у выглядзе вялізнага звона, на якім сядзяць і стаяць людзі з крыжам. Лацінкай і кірыліцай напісана «Россия». Намінал познамкі ўсяго 30 капеек, а разам з канвертам — 75.*

*Як звычайнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, які часамі піша і адпраўляе лісты, мяне цікавяць некалькі пытаньняў. Калі я набуду гэты танны замежны канверт, ці абавязкова мне на яго наклейваць да 2 рублёў (столькі ў нашай краіне каштуе адпраўка звычайнага ліста), беларускія познамкі? Але самае галоўнае пытаньне у іншым. Незалежна ад таго, наклею я або не дадатковыя познамкі, ці вернуць мне назад канверт як несапраўдны, якім ён і зьяўляецца? Калі не, дык у якой тады дзяржаве жыву?*

*А можа, я дарэмна б ́ю ў званы, і беларускія канвертаў, якіх увесь час не хапае, прадаюцца ў маскоўскіх шапіках?.. А можа, усё прасьцей, і расейскія канверты прызначаны для калекцыянэраў? Але ж сярод нас большасьць тых, хто піша лісты, і адзінкі тых, хто зьбірае паштовыя канверты... Нават калі я не пачну сваё пасланьне замежнаму сябру словамі «Пішу табе з расейскага горада Горадні», ён і так гэта зразумее, а пагатоў жа дагэтуль не існуе паштовых штэмпелёў «Рэспубліка Беларусь. Горадня».*

**Р. МЕНДЖЫБОЎСКІ.**

## МЕНСКІЯ

**ПЕРШАЯ ДАМА КРАІНЫ**

Пад час правядзеньня сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў СНД у Менску «на вышэйшым узроўні» сустракаліся й жонкі прэзідэнтаў і старшыняў ВС былых рэспублік СССР. У іх была таксама насычаная праграма, але не палітычнага, а гуманітарнага зьместу. Адным з яе пунктаў, напрыклад, было наведваньне паказу мадэляў менскага Дому модаў, які апошнім часам набывае ўсё больш прэстыж за межамі Беларусі. Як за круглым сталом, так і ў сузор ́і «першых дам» садружнасьці наша краіна выглядала вельмі прэзэнтабельна, дзякуючы сям ́і Шушкевічаў. Жонка нашага кіраўніка маладая й прыгожая, у свой час яна была студэнткай унівэрсітэту, і ў яе выкладаў прафэсар Станіслаў Станіслававіч.

**«НАШЧАДКІ» РОБІН ГУДА**

У адрозненьне ад ангельцаў наш нацыянальны эпас услаўляе й рамантызуе не ляснога лотра, але змагара за волю бацькаўшчыны («Слова пра паход Ігаравы»). Але сусьветная слава Робін Гуда, мабыць, не дае спакою ягоным калегам у нашай краіне. Ня так даўно дамушнікі, якія забраліся ў адну з менскіх кватэраў, убачылі, што брацьтам няма чаго. Тады «шляхотныя» рабаўнікі пакінулі ў падарунак гаспадарам крыштальную вазу (не сваю, пэўна ж) з цыдулкай: «Так жыць нельга».

**«ЦІХІЯ» РАЁНЫ**

Заходнія журналісты, між іншым, заўважылі, што ніводнае канкрэтнае «прадказаньне» астролагаў на мінулы год ня спраўдзілася. Мабыць, гэта паўплывала на катастрафічнае падзеньне папулярнасьці гэтае навукі сярод менчукоў. Напярэдадні новага году яны сарвалі выступленьні вядомага Паўла Глобы ў Палацы спорту, бо было прададзена ўсяго 15 квіткоў. А дарма. На выступленьнях кожны мог набыць астральную мапу Менска, у якой, між іншым, для ўсіх знакаў Задыяка ўказаныя раёны гораду, дзе варта сустракацца з палюбоўніцай, каб не «заляцець».

**ПАЧАТАК**

18 студзеня ў Менску па вул. Грыбаедава адчынілася першая ў краіне камэрцыйная крама, якая гандлюе зброяй. Акрамя гэтай, выдадзена яшчэ восем ліцэнзіяў на такі род дзейнасьці прыватным асобам і камэрцыйным арганізацыям. Пакуль дазволена рэалізоўваць пнэўматычную, паляўнічую й спартовую зброю. У вольным продажы знаходзіцца толькі пнэўматычная. Чакаецца пашырэньне асартыменту пасьля прыняцьця закону аб зброі, які зараз рыхтуецца ў ВС.

**НЕЗВЫЧАЙНАЕ САМАЗАБОЙСТВА**

20-га студзеня ў Менску днём на некалькі гадзінаў спыніў рух гарадзкі электратранспарт. Адбылося гэта з-за таго, што ў Першамайскім раёне здарылася кароткае замыканьне на высакавольтнай лініі. На дратах знайшлі цела маладога чалавека. Ходзяць чуткі, што перад тым, як пайсьці на гэта, хлопец палаяўся дома з бацькамі з прычыны нездаддзенага іспыту.

**КАМПРАМІС**

На менскіх гарадзкіх могілках у Міхановічах пачынаецца будаўніцтва Сьвята-Крыжа-Узьдзьвіжэнскай царквы. На пачатак жа будаўніцтва спэцкамбінат бытавога абслугоўваньня дазволіў карыстацца рытуальнай залай дзеля адпраўленьня пахаваньняў па праваслаўным абрадзе. Цікава, як будзе адбывацца падобнае суседзтва? Справа ў тым, што зала гэтая знаходзіцца ў будынку крэматорыя.

**БУДЗЕМ ЛЯЧЫЦЦА, ЯК ПРОДКІ**

У элітарных аптэках Менска асартымент лекаў скараціўся ўдвая ў параўнаньні з недалёкім мінулым. На рабочых ускраінах дык і таго горш. Зьявіліся дыфіцытныя лекі, так неабходныя хворым і пэнсіянерам, але каштуюць яны тысячы рублёў. Гэтым людзям няма дзе ўзяць такія грошы. Напружанае становішча ўзьнікла з-за таго, што нашы традыцыйныя пастаўшчыкі лекаў — Расея й Украіна — не даюць сваім фармацэўтычным прадпрыемствам ліцэнзіі на вываз прадукцыі.

**БУДЗЕ ЧЫСТАЕ, ЯК ЛЮСТЭРКА**

Менчукі даўно абураліся экалагічным станам Камсамольскага возера. Выкапана яно было за Сталіным і атрымала сваю назву па злой іроніі, у народзе ж кажуць: зэк (ЗК) — забайкальскі камсамолец. Хаця й парупіліся ў свой час «рэпрэсіраваныя», але прайшло шмат часу, і разьлілося тое возера бруднай калюжынай у самым цэнтры горада. Але, нарэшце, адразу пасьля Новага году на возеры пачаліся земляныя работы. За гэты год плануюць паглыбіць яго на паўтары метры, добраўпарадкаваць тры астравы, замацаваць адхоны, пабудаваць прычалы й дзіцячы пляж. Спадзяемся яшчэ, што вада будзе дастаткова чыстая, каб у яе ня было страшна пускаць дзятву.

(Працяг на 3-й стар.).

**Водгукі**

# ГЭТА ЎЖО БЫЛО...

Колькі сёньня на Беларусі палітычных партый і рухаў? Калі пачаў лічыць, назьбіралася болей за дзесяць... Ёсьць і левыя, і правыя, і цэнтрысты, і левацэнтрысты і г. д. Здавалася б, усе нішы ў палітычным жыцьці Рэспублікі ўжо занятыя, бо цяжка сёньня прапанаваць выбаршчыкам праграму, якая б карэнным чынам адрозьнівалася ад ужо існуючых.

Але ўсё ж ёсьць палітычныя дзеячы, якія рызыкуюць. Напрыклад, Анатоль Нетылькін, старшыня аргкамітэту, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, які ў «Народнай газеце» за 29 студзеня заклікаў чытачоў у шэрагі новай партыі сацыяльнай справядлівасьці — менавіта так яна будзе называцца.

Партыя сацыяльнай справядлівасьці (ПСС) бярэ такія абавязкі, з якімі не заўсёды можа здужаць дзяржава з яе магутным апаратам: справядлівае разьмеркаваньне (зноў разьмеркаваньне — аўт.) матэрыяльнага дабра; абарона гонару, свабоды і чалавечай годнасьці; гарантаванае (?) права на абарону чалавечага жыцьця і прыватнай уласнасьці.

Але старшыня аргкамітэту адчувае, што гэта мала ўражвае і ўцягвае ў бой дальнабойную артылерыю: «гарантаванае (!) пэнсійнае забесьпячэньне на ўзроўні сярэдняга заробку за апошнія 25 гадоў; інвалідам I групы — штомесячная сацыяльная дапамога не ніжэй сярэдняга заробку па рэспубліцы; захаваньне сярэдняга заробку жанчынам па догляду за дзецьмі да трох гадоў».

Ст гэта ўжо сур ́ёзна! Ст гэта партыя! Шкада толькі, што ніхто не здагадаўся зрабіць гэта раней — тады б увесь сярэдні слой пабег бы запісвацца ў тую партыю.

Але стоп! Годзе, спадары! Бо занадта вы ўжо разышліся — трэба трохі асьцюдзіць гарачыя галовы. Галоўнае — дзе ўзяць грошы на вашыя пражэкты, бо ўжо зараз на Беларусі колькасьць пенсіянераў набліжаецца да трох мільёнаў; дадайце сюды маладых мацярок. Хто ж здолее ўсім забясьпечыць сярэдні заробак, ад каго трэба тады забраць, каб ва ўсіх было пароўну?

Усё ж лічу, што гэта добра сплянаваны папулізм, надзея, што нехта клюне на вуду.

Не хацеў бы аспрэчваць тую частку праграмных накірункаў, якія тычацца мовы, але толькі скажу, што мяне вялікую цікавасьць запытаць у шаноўнага, ужо будучага (думаю, не памылюся) старшыні ПСС: у якім горадзе ці раёне былі зачынены расейскія школы?

Ды і наогул, партыя, якая не стаіць на нацыянальным грунце, ня мае будучыні.

Па частцы эканамічнай праграмы будучая партыя амаль нічым не адрозьніваецца ад існуючых, хаця і тут ёсьць пэўныя «дасягненьні» у выглядзе «мы за палітычны сувэрэнітэт і інтэграваную эканаміку; безперашкоднае перамяшчэньне на тэрыторыі СНД таварна-грашовых рэсурсаў».

Вельмі сумняваюся, што пры сёньняшніх умовах інтэграваная эканаміка і палітычны сувэрэнітэт сумяшчальныя, а што датычыць безперашкоднага перамяшчэньня, то рызыкну выказаць думку: тады ўсе мы застанемся амаль голыя, бо адных толькі каляровых мэталаў затрымана на межах Беларусі ў мінулым годзе на 1 млд. 73 млн. рублёў. Сх і цяжка ж вам давядзецца тады выводзіць сярэдні заробак і асабліва за 25 гадоў!

На заканчэньне зазначу, што ўсе гэтыя праграмныя мары ПСС магчымы толькі тады, калі яны прыйдуць да ўлады, а дарога ўгару вельмі ж цяжкая. Давер выбаршчыкаў трэба заваяваць канкрэтнымі справамі — тут аднымі абяцанкамі не абыйсьціся.

**Г. СЫСОЙ,**
**дэпутат Гарадзенскага гарадзкога Савета.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



● *Рэпліка*

## Якое пытаньне — такі й адказ

Ня так даўно газэта «Вечерний Минск» атрымала ліст ад В. Голуба наступнага зьместу: «Вы знаете, что меня возмущает в последнее время? Во многих газетах («Вечерний Минск» — не исключение), по радио и телевидению читаешь и слышишь выражения: «Станислав Шушкевич сказал...», «Вячеслав Кебич посетил...», «Иван Коротченя встретился...»

Ну ладно, на Западе: там так принято. А у нас, славян (даже в Энциклопедии записано), отчество — часть родового имени. Или, может, пойдем по демократическому пути дальше, и пустим в оборот — Ванятка, Стасик?..»

Таварыш занудзіўся па Мікіце Сяргеічу ды й Леанідзе Ільічу... Яго можна зразумець. Што зробіш, чалавек нават ня ведае, што славяне розныя бываюць. Але ў «Ответе из редакции» Н. Лукʼянаў не знайшоў нічога лепшага, як спаслацца на ўплыў часу, на амэрыканцаў, брокераў, ваўчэраў ды немцаў. Падмацаваў гэта словамі вялікага паэта А. С. Пушкіна:

«Но панталоны, фрак, жилет,
Всех этих слов на русском нет...»

На самой жа справе ўсё выглядае значна прасьцей. Папершае. А. С. Пушкін ніколі ня быў беларусам. Па-другое, славяне дзеляцца на беларусаў, украінцаў, расейцаў, балгараў, палякаў, серба-лужыцаў і г. д. Па-трэцяе, у нас — беларусаў, таксама як у палякаў і шмат у каго яшчэ імя па бацьку не ўжывалася аж да пачатку русіфікацыі. Зараз мы ўсяго толькі вяртаемся да нашых традыцыйных нормаў звароту.

Што скажаш, дурное пытаньне — дурны адказ. Шкада толькі, што ні той, хто пытаўся, ні ўся рэдакцыя «Вечернего Минска» гэтага так і не зразумелі.

**Алесь А.**

## НАВІНЫ

### КРЫЖЫ НАД ПЛЯЦАМ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Летась абезгалоўленыя званіцы Чырвонага касьцёла, што ў самым цэнтры Менска, атрымалі нарэшце сваё лагічнае завяршэньне. Адрэстаўраваны ён быў у 1975 годзе пад Дом кіно, чым, урэшце, быў застрахаваны ад разбурэньня, бо бальшавікі даўно «паклалі на яго вока». Ім было прыкра падобнае суседства побач з Домам ураду. Здаецца, наш Чырвоны касьцёл уратавалі ў Маскве, калі адстаялі там сабор Васіля Божавоўка. Гэта дало падставу для захаваньня храма, бо чаму каля Крамля можа стаяць царква, а ў нас не?

Нарэшце «мадэрновыя» крыжы зьявіліся й над самай галоўнай вежай Чырвонага касьцёлу. Цяпер з пляца гэты шэдэўр архітэктуры, які ўдала спалучыў у сабе элементы нэараманскага стылю, несапраўднай готыкі й мадэрну, выглядае амаль такім, якім яго бачыў у свой час фундатар касьцёлу — былы член Дзяржаўнага Савету па выбару, Ганаровы міравы суддзя, старшыня Менскага таварыства сельскай гаспадаркі, аўтарытэтны слуцкі шляхціч сп. Эдвард Вайніловіч. Храм названы «У імя св. Сымона й св. Алены» — у гонар дзяцей фундатара, якія памерлі пад час эпідэміі ў юнацкім узросьце.

### «МИНСК» АДПРАВІЛІ НА КЛАДЫ

У сувязі з распадам СССР Расея пазбавілася 5-ці буйных сударапарацыйных заводаў. З-за фактычнай адсутнасьці рапарацыйнай базы й недахопу сродкаў на Чырвонасьцяжным Ціхаакеянскім флоце на клады ваенных караблёў адбуксавалі адзін з былых флагманаў — цяжкі авіянясучы крэйсер «МИНСК», які па марскіх мерках зусім юнак — яму споўнілася ўсяго 15 гадоў. Цяжка пракамэнтаваць гэты факт, бо не зразумела — сумны ён ці радасны. Можна дадаць толькі адно: у хуткім часе «вясёленькую» кампанію «МИНСКУ» могуць скласьці «КИЕВ» ды «Новороссийск».

### «КІТАЙСКІ» КІРМАШ

Апошнім часам Камароўскі рынак у Менску стаў адным з асноўных пунктаў у турыстычным маршруце турыстаў з Захаду Эўропы, якія жадаюць «пасмактаваць» каларыту «усходняга» кірмашу. Але гэты радасны факт, здаецца, не задавальняе Менгарвыканкам. Стварэньне пастаянных аўтамабільных «коркаў» у самым цэнтры горада, бруд, смурод, плойма рэкеціраў, кішэнных злодзеяў, а таксама нашых нядаўніх землякаў па адной вялікай краіне — у кепках і цюбяцейках ператварылі гэты раён горада ў сапраўдную клааку. Зараз робіцца чарговае гераічнае намаганьне выперці барахолку з цэнтра на Чэрвеньскі ды Курасоўшчынскія рынкі. Адно «але»: за ўсё існаваньне гэтага рынку назапасіўся вялікі стос падобных папераў. Што ж, вельмі пажадана, каб на гэты раз улады паставілі апошнюю тлустую кропку ў гэтай зацягнуўшайся гісторыі.

### ЖЭТОН БЯСЬПЕЧНЫ

Жыхары Менска ўсхваляваліся пасьля таго, як у тэленавінах з Астанкіна прагучала інфармацыя, што жэтоны, якія выкарыстоўваюцца ў маскоўскім мэтрапалітэне, выпраменьваюць шкодныя для здароўя элементы, а таму дзеці да 12 гадоў праз турнікеты праходзіць ня будуць. На гэта спецыялісты менскага навукова-дасьледчага інстытута ЭВМ, якія распрацоўвалі жэтоны для нашага мэтро, паведамілі, што іх варыянт — цалкам бяшкодны для здароўя, бо ўяўляе сабой звычайную сталёвую пласьцінку, заплаўленую ў палісьціроп. З гэтымі рэчывамі кожны чалавек пастаянна сутыкаецца ў паўсядзённым жыцьці. У Маскве ж выкарыстоўваецца «харкаўскі» варыянт, уплыў якога на сістэму блакіроўкі турнікету заснаваны на флюарысцэнтным рэчыве.

### ЭКАНОМІКА САДРУЖНАСЬЦІ

Як вядома, эканоміка трымаецца на паліве. Увесь цывілізаваны сьвет карыстае нафту, якую здабываюць у краінах Бліжняга Ўсходу. Наш «старэйшы брат» дужа ня хоча, каб так пачалі рабіць і мы, бо тады й ня будзе чым нас «трымаць». Але ў мінулым годзе замест абяцаных 30 мільёнаў тон гэтай сыравіны Беларусь атрымала толькі 20. Так што, паважаныя аўтаўладальнікі, як бы не ўзрасталі кошты на бэнзін, узяць яго ўсё роўна ня будзе дзе, бо ў гэтым годзе нам ужо толькі абяцаюць 16 мільёнаў тон. Справа ў тым, што здабыча нафты ў Расеі падае аж да ўзроўню 1975 года. Гадавая ж патрэба нашай краіны ў гэтым паліве складае 40 мільёнаў тон. Здабываем нешта каля 3. Лічыце самі...

**Падрыхтаваў Алесь А.**

● *Войска*

## АФІЦЭРЫ ВУЧАЦЬ МОВУ

**Чарговая прэс-канфэрэнцыя кіраўніцтва Гарадзенскага гарнізона з мясцовымі журналістамі адбылася на мінулым тыдні. Намесьнік начальніка гарнізона палкоўнік Кузьняцоў напачатку падзякаваў журналістам вобласьці за карэктнае асьвятленьне вайсковых пытаньняў у прэсе, што, на яго думку, было значнай падтрымкай вайскоўцам. А таксама зазначыў, што найбольш падрыхтаваныя дэпутаты ў Вярхоўным Савеце рэспублікі па вайсковых пытаньнях таксама — з заходняй Беларусі. Дарэчы, з прыняцьцем законаў, якія датычаць войска, значна стабілізавалася псіхалагічная абстаноўка ў часьцях. На яго думку, законы ў асноўным задавальняюць вайскоўцаў, і ўзброеныя сілы здольны іх выконваць. Праўда, ёсьць і шмат цяжкасьцяў. Адна з іх — бюджэт на войска, які налічвае трохі больш за 57 млрд. рублёў, што прымушае шмат у чым эканоміць. Дагэтуль Беларускае Войска ня мае сваёй формы, узоры якой ужо былі паказаны і ў цэлым выклікаюць задавальненьне.**

Як вядома, войска цяпер перажывае даволі складаны працэс — скрачэньне. І хоць працэс гэты, як і паўсюдна, праходзіць з цяжкасьцямі, аднак, падмацаваны законамі, панікі не выклікае.

І надалей вострым застаецца жыльлёвае пытаньне для афіцэраў і прапаршчыкаў, хоць вайскоўцы добра разумеюць сягоньняшнюю сітуацыю і маюць спадзяваньні на новыя законы, якія павінны вырашыць і гэтую праблему.

Для жаўнераў тэрміновай службы асаблівых зьмен пакуль няма. Упершыню з апошнім наборам у Беларускае Войска былі прызваны юнакі (16 чалавек), якія мелі судзімасьці. Шасьцёра з іх, дарэчы, нават адбывалі пакараньне. Усе яны не з Гарадзенскай вобласьці. Праўда, да такіх прызыўнікоў ужо рыхтаваліся і асаблівых праблем з гэтай нагоды не ўзьнікае. Аднак з ростам злачыннасьці ў рэспубліцы ў войску таксама павялічыліся выпадкі самавольнага пакіданьня часьцей і дэзэртырства. Часьцей гэта здараецца з жаўнерамі, якія ў свой час пакінулі часьці ў СНД і вярнуліся на Беларусь. Дарэчы, у баявых часьцях гэты працэнт мінімальны. З пачатку новага года ў арміі здарылася толькі адно злачынства, што ніяк не параўнаць з мінулымі гадамі.

З выступленьня вайсковага камісара вобласьці стала вядома, што і з прызывам, здаецца, усё добра. За год план выкананы на 105% і, што прыемна, у Беларускае Войска нашы хлопцы ідуць з большым жаданьнем, чым раней у Савецкую армію. Праўда, як і раней, не абходзіцца без сімулянтаў.

Рашэньнем Міністэрства абароны ў Гарадзенскім гарнізоне створаны інфармацыйны цэнтр. Зьявілася свая друкарня, плануецца выпускаць свой прэс-бюлетэнь.

Адна з важных праблемаў для войска — пераход на беларускую мову. Дарэчы, на маю думку, вайскоўцы самі яе на канфэрэнцыі і не падымалі толькі таму, што адчуваюць у гэтым пакуль значныя хібы. Як выявілася, асабліва гэта праблема стаіць перад афіцэрамі, бо жаўнеры ў сваёй большасьці мовай валодаюць. Сярод афіцэраў 70% ня ведае мовы. З гэтага года ўведзены для іх чатыры гадзіны на тыдзень абавязковых заняткаў. Дарэчы, яшчэ ў сярэдзіне мінулага года 40% жаўнераў у Гарадзенскай вобласьці па жаданьню прымалі прысягу на беларускай мове. Надалей з вывучэньнем мовы шмат складанасьцей, і ўсе па тых самых прычынах — няма падручнікаў, не хапае выкладчыкаў, і праграма, якая прапануецца, занадта акадэмічная, амаль на ўзроўні філалагічнага факультэта.

Дарэчы, выказвалася пажаданьне, каб беларускія кампазітары напісалі болей вайсковых песень. З гэтай нагоды была выказана падзяка беластоцкай газэце «Ніва», якая ў апошнім нумары апублікавала тэкст і ноты беларускага вайсковага марша. Ужо ўвесну пад яго будуць маршыраваць ва ўсіх часьцях Гарадзенскай вобласьці.

Адно з пытаньняў датычыла таго, ці падтрымлівае беларускае войска якія-небудзь кантакты з польскімі войскамі? Амаль ніякіх, паколькі палякі арыентуюцца зараз на НАТО.

І ўрэшце прагучала пажаданьне з боку вайскоўцаў, каб па-новаму паглядзець на праблему ваенна-патрыятычнага выхаваньня моладзі, паколькі героі сярод беларусаў былі ня толькі ў часы сярэднявечча, а і ў навейшай гісторыі.

**З гэтым я таксама згодзен, толькі пачынаць ім патрэбна, на маю думку, перш за ўсё з сябе, бо як інакш патлумачыць, што ў чытальнай зале гарнізоннай бібліятэкі, дзе ладзілася канфэрэнцыя, дагэтуль, як агітацыя, красуецца часопіс «Коммунист вооруженных сил», які прапагандуе артыкул «Кодекс чести войска Российского»...**

**М. КАРНЕВІЧ.**

## Небясьпека стукае ў вашыя дзьверы. Не сьпяшайцеся ёй адчыняць...

**На 24,4% павялічылася ў 1992 годзе колькасьць злачынстваў у параўнаньні з годам 1991, па лініі крымінальнага вышуку — на 36,5%. З такога факту пачаў начальнік вабласнога ўпраўленьня ўнутраных спраў гэнерал Фёдар Гудзей брыфінг, на які былі запрошаны журналісты газэт, радыё, тэлебачаньня. З 3519 асобаў, што прыцягваліся ў мінулым годзе да крымінальнай адказнасьці ў Гарадзенскай вобласьці, 654 (кожны пяты) — непаўналетнія, 950 (кожны трэці) — нідзе не працуюць і ня вучацца. 1414 чалавек (амаль кожны другі) парушалі закон у стане алкагольнага апьяненьня.**

Найбольш непакояць міліцыю групавыя злачынствы. У мінулым годзе 700 правапарушэньняў былі зьдзейсьнены менавіта групоўкамі. Блізкасьць мяжы, рэчавы рынак, бартэрныя грузы — гэтыя і іншыя ўмовы вабяць у Горадню так званых гастралёраў. У вабласным цэнтры акрэсьліліся ўжо раёны, дзе нашыя «шаноўныя» госьці маюць звычку кватэраваць. Гэта вуліцы Падольная, Парахавая, 60 год Кастрычніка, Вольгі Соламавай.

Закрыцьцё Камароўскага рынку ў Менску аўтаматычна зрабіла гарадзенскі рынак ці не самым галоўным у рэспубліцы. Каля дваццаці супрацоўнікаў спрабуюць захоўваць парадак на гэтым невялічкім кавалку зямлі, але, нягледзячы на ўсе намаганьні, у мінулым годзе ў аддзяленьні міліцыі было складзена 115 пратаколаў. Затрыманы 176 жыхароў прыбалцкіх краінаў, 131 расеец, 112 украінцаў, 141 чалавек з Закаўказьзя й Сярэдняй Азіі. Акрамя тых, хто жыў некалі з намі ў братняй сям'і савецкіх народаў, не пагрэбавалі больш блізкім знаёмствам з беларускімі законамі 263 грамадзяніны Рэспублікі Польшча, 46 вьетнамцаў, і 5 румынаў.

Беларусь робіцца перавалачнай базай для тых, хто накіроўвае наркотыкі з Сярэдняй Азіі, Расеі і Украіны на Захад. 91 злачынства ў вобласьці за мінулы год зьвязана з наркотыкамі, выяўлена 18 груповак, якія рыхтавалі ці гандлявалі гэтаю атрутай. Самымі небясьпечнымі ў гэтых адносінах прадстаўнікі МУС вобласьці называюць гарады Ліду і Ваўкавыск.

Праводзяцца адпаведныя меры па абароне спажывецкага рынку рэспублікі. Тавараў, што незаконна вывозіліся за межы Беларусі, канфіскавана на агульную суму ў 179 мільёнаў 140 тысяч рублёў. 104 тоны цітану, што згрузілі ў Ашмянах, і 84 тоны нікелю, арыштаваныя ў Смаргоні,— толькі некалькі прыкладаў таго, якіх памераў дасягнуў вываз каляровых мэталаў. Беларусь пакутуе ад заканадаўчых недарэчнасьцей. Закон аб абароне спажывецкага рынку не дазваляе вывозіць за межы рэспублікі пэўныя тавары і прадукты харчаваньня. Беларускія ж мытнікі кіруюцца іншым законам, паводле якога грамадзянін рэспублікі мае права вывозіць за мяжу тавары на агульную суму ў 5 тысяч рублёў.

Не такой далёкай і «ня нашай» стала праблема падробных грошаў. У Лідзе пры абмене валюты выяўлена шэсьць падробных нямецкіх купюр вартасьцю па 100 марак кожная. Дырэктар малога прадпрыемства ў Смаргоні знайшоў у сваёй касе пяцітысячную купюру фальшывых расейскіх рублёў. У Горадні затрымана групоўка «спэцыялістаў» з Інгушэціі, якія таксама збывалі падробныя рублі.

За 1992 год канфіскавана 137 адзінак агнястрэльнай зброі, у тым ліку адзін кулямёт і два аўтаматы.

Свае сумныя зьвесткі паведаміла і ДАІ: на дарогах загінула 280 чалавек і каля 1300 атрымалі раненьні.

Сапраўдным бедствам сталі крадзяжы. Яны складаюць 60% ад агульнага ліку злачынстваў, прычым па статыстычных дадзеных пераважаюць крадзяжы дзяржаўнай маёмасьці. Затрыманы больш дзвюх тысяч «несуноў», канфіскавана каштоўнасьцяў больш чым на мільён рублёў. Дарэчы, многія з несуноў вельмі хутка перакваліфікаваліся ў «везуноў» і, калі б ім не перашкаджала міліцыя і іншыя адпаведныя органы, маглі б дасягнуць эўрапейскіх, а то і сусьветных масштабаў дзейнасьці. Бо адказ на пытаньне, чаму наша дзяржава такая бедная і ці ёсьць у нас сапраўдныя гаспадары, трэба шукаць ні на паседжаньнях Вярхоўнага Савета ці ў Савеце міністраў, а на тым жа гарадзенскім рынку ці на мяжы з суседнімі краінамі.

За гэтымі лічбамі шмат зьнявечаных людзкіх лёсаў. Наша даверлівасьць, цяжкі матэрыяльны стан, які прымушае ісьці на самыя сумнёўныя шляхі здабытку грошаў, абыякавасьць сёньняшняга чалавека да бліжняга ствараюць спрыяльныя ўмовы для гвалтаўнікоў, злодзеяў, забойцаў. Пакуты і сьмерць прыходзяць часьцяком пад выглядам ветлівых, шчодрых на абяцанкі хлапцоў, якія раптоўна ператвараюцца ў жахлівых маньякоў. Боль чужых людзей, далёкі і невядомы, можа нечакана пастукаць у нашыя дзьверы. І ня трэба сьпяшацца запрашаць яго ў сваю хату..

**С. ЛАЎНІК.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



## ● Працяг судовай справы

# Слова за пракурорам

У папярэднім нумары «Пагоні» у артыкуле «Судовая справа года, якая пакуль яшчэ не скончана», паведамлялася аб ходзе судовай справы, якая датычыць аграпрамысловага калгаса-камбіната «Прагрэс». Нагадаю, што яна двойчы разглядалася ў судзе і ўрэшце была прадстаўлена на Судовую калегію па крымінальных справах Гарадзенскага вабласнога суда.

28 студзеня 1993 года адбылося пасяджэнне калегіі, на якім было прынята рашэньне зьмяніць у адносінах да Бабіч Леанарды Юльянаўны (былой бугалтаркі калгаса-камбіната «Прагрэс») азначэньне народнага суда Кастрычніцкага раёна Горадні ад 23 сьнежня 1992 года, выключыць з яго патрабаваньне аб дадатковым правядзеньні сьледства.

У адносінах да А. І. Дубко вынячана: азначэньне аб ўзбуджэньні крымінальнай справы адмяніць, паколькі апошні зьяўляецца дэпутатам вабласнога Савету і папярэдне суд парушыў Закон, прыцягваючы яго да крымінальнай адказнасьці без пазбаўленьня дэпутацкіх паўнамоцтваў. Праўда, паколькі сьледствам усё ж прадугледжваюцца асобныя прыкметы злачынства ў дзеяньнях А. І. Дубко, якія пацягнулі за сабой страты для калгаса (на канец мінулага года яны склалі 61.900.000 рублёў), значыцца, усё ж абавязак пракурора вобласьці хадайнічаць перад дэпутатамі вабласнога Савету аб магчымасьці прыцягнуць А. Дубко да адказнасьці перад судом. Дагэтуль такія спробы пракурорам пакуль не зроблены.

Цікава, што ў астатнім азначэньне народнага суда засталося без зьмен, а г. зн., што не зьнялі крымінальную адказнасьць і са старшыні прафкама калгаса Брагава Ю. А.

І ўрэшце нагадаю, што справа цягнецца ўжо год, а на думку вопытных юрыстаў, гэта значна абцяжарвае пошукі ісьціны.

**М. МІКАЛАЙЧЫК.**

## СЮРПРЫЗ ДЛЯ АМАТАРАЎ СУР´ЁЗНАЙ МУЗЫКІ

Днямі ў канцэртнай зале гарадзенскага Дома афіцэраў адбылося выступленьне двух творчых калектываў — Беларускага дзяржаўнага камернага аркестру (Менск) і дзяржаўнага камернага хору Летувы (Шаўляй). Яны выканалі супольна падрыхтаваную праграму духоўнай музыкі з твораў Баха і Моцарта, з якой і пазнаёміл гарадзенцаў.

Кіраўнік хора «Паліфонія» спадар Сігітас Вайчулёніс вельмі задаволены супрацоўніцтвам з беларускімі музыкантамі — прафесіяналамі найвышэйшага класу. Ужо два гады хор з Шаўляя рыхтуе сумесна з менскім камерным аркестрам канцэртныя праграмы і выступае разам з беларусамі. За гэты час канцэрты адбываліся і ў Шаўляі, і ў Коўне, і ў Вільні. Аснова праграм — духоўная і царкоўная музыка.

**М. МІХАЙЛОВІЧ.**

## ● Дзятлаўскі раён

# У НАВАЕЛЬНІ БУДУЮЦЬ ТАК...

Гарадзкі пасёлак Наваельня вядомы ў рэспубліцы як выдатны санаторый. Густы сасновы лес стварыў адметныя ўмовы для адпачынку і лекаў. Сюды ахвотна едуць лекавацца тыя, у каго захворваньні ворганаў дыханьня не паддаюцца лекам у звычайных шпітальных умовах.

Яшчэ нядаўна лес, які быў гонарам пасялкоўцаў, знахозіўся пад аховай лясьніцтва. Нават самы сьмелы ў пасёлку не адважыўся сьсекчы хоць адно дрэва. Штогод сосны, ялінкі, што расьлі па дварох, пералічваліся. У даведнік натаваліся амаль усё, што тычылася дрэў: рост ушыркі і ўвышкі за год, колькасьць маладых парасткаў і іншае. Але некалькі год таму шчасьлівае жыцьцё навальненскага лесу скончылася, новы старшыня пасялковага Савета І. Грыб разнастайнымі хітрыкамі дабіўся перадачы лесу, што расьце ў межах пасёлка, на баланс пассавета. З таго часу й пачаліся чорныя дні векавых сосен, елак, бяроз, дубоў. Рашэньнем мясцовых улад у Наваельні жадаючым адводзяць участкі для прыватнай забудовы. Не абыйшлі ўвагай пассаветаўцы й сябе — у самым цэнтры пасёлка адвялі добры кавалак пляцу пад уласныя катэджы. У ліку прывілеяваных — намесьнік упраўляючага сельгастэхнікай Каліноўскі, начальнік аграсэрвісу Церашкоў, сам старшыня пассавету і яго родны брат.

Навасёлы адразу сьцямілі, што дрэвы на іхніх участках — гэта цудоўны будаўнічы матэрыял. Узяліся секчы й пілаваць гонар наваельненцаў з такім імпэтам, што ня вытрымалі гэтага здзеку самыя абыякавыя жыхары пасёлка. Пайшлі са скаргай да дэпутата Савета В. Алейнікава. Той зафатаграфаваў на плёнку парушэньні ды адаслаў іх у незалежную камісію па экалогіі і прыродаахове. Але й гэта ня спыняе «будаўнікоў» — яны паўсюдна робяць заявы, што цяпер гэта — іхняя ўласнасьць, а са сваім можна рабіць ўсё, што захочаш.

**Р. МЯДЗЬВЕДЗЬ,**
**ляснік Наваельненскага лясьніцтва.**

## ВОСЬ ДЫК ЗНАХОДКА!

Звыш васьмідзесяці буйнакаліберных артылерыйскіх снарадаў выкапаў з зямлі ў час планіроўкі лініі цеплатрасы пад новы жыльлёвы дом бульдазэрыст Ваўкавыскага будаўніча-мантажнага трэста № 38 Янка Зайцаў.

Выкліканай на месца здарэньня групе сапёраў спатрэбілася два дні, каб абясшкодзіць гэты незвычайны скарб.

**Т. ПЯТРОВА.**

## УСІМІ ФАРБАМІ РОДНАГА КРАЮ...



Фота А. УЛАДАСЕВІЧА.

У выставачнай зале Новага Замку адбылася першая ў 1993 годзе выстава сучаснага беларускага выяўленчага мастацтва.

«Свята», «Сонечны дзень», «Палявыя кветкі» — гэта толькі некаторыя з назваў твораў выкладчыка Гарадзенскай вучэльні мастацтваў Аляксея Багустава, які ў гэты дзень быў гаспадаром залы. Унутранае сьвятло, багацьце настрою, шчырасьць перажыванняў і адчуваньняў аўтара ўжо мелі магчымасць ацаніць аматары жывапісу Расеі, Літувы, Латвіі, Польшчы.



### Агляд прэсы

# Тэорыя, выцягненая з бальшавіцкага куфэрка

**Як сьведчаць публікацыі газэт (ад рэспубліканскіх да шматтыражак), разьдзьмухваньне «праблем» рускамоўнага насельніцтва, рускай мовы і культуры на Беларусі ня тое што не спыняецца, а наадварот, узмацняецца і часам набывае завуаляваны характар. І сядзець, паклаўшы рукі, не рэагаваць на падобныя правакацыі — проста недаравальна. Мне ўжо прыходзілася праз радыё камэнтаваць адыёзны артыкул спадара В. Сурніна «Нетерпение большевизма, помноженное на национализм, это на редкость горючая смесь», які надрукавала вабласная газэта «Высота», а таксама артыкул спадара У. Ягорычава «Язык и люди» («Перспектива», 2.12.1992), інтэрв´ю прафэсара В. Няфёдава («Рэспубліка», 4.12.1992) і артыкул Ганны Маланкінай («Знамя юности», 4.12.1992).**

**Здавалася, што ўсё было раскладзена па палічках і выказана супрацьлеглае меркаваньне... Ды дзе ж там! Новы год прынёс у якасьці «падарункаў» новыя публікацыі, праўда, іх зьмест той жа самы.**

Не супакоіўся доктар філалагічных навук, прафэсар кафэдры сусьветнай літаратуры Менскага інстытута культуры Валеры Няфёдаў пасьля свайго выступленьня ў саўмінаўскай «Рэспубліцы» з опусам «Тут русский дух, тут Русью пахнет...». Відаць, эфэкт быў нулявы. Але прафэсар В. Няфёдаў не згубіў надзеі й аператы́ўна прадубляваў свае «мінулагодні» думкі 5.01.1993 у газеце «Знамя юности». Героіні з артыкула У. Ягорычава «Язык и люди» сказалі б: «Апапсела ў дошку!». Аднак зьвернемся непасрэдна да артыкула шаноўнага прафэсара — «А кто там идёт? Хуторяне?». Дык што ж хаваецца за прыгожым назовам? Амаль нічога звышцікавага. Тыя ж моўныя канструкцыі, тыя ж заклікі. Больш таго, вялізныя кавалкі тэксту з публікацыі ў «Рэспубліцы» перакрочылі ў новы артыкул. Так што фактычна мы маем справу с перадрукам.

Напачатку аўтар заглыбляецца ў гісторыю, узгадвае дзеячоў культуры, якія паўплывалі на разьвіцьцё і расейскай, і беларускай літаратур. Паводле прафэсара В. Няфёдава «интеллектуализм Купалы шлифовался в Санкт-Петербурге, где этот прирожденный поэт дышал атмосферой уникальной культуры», а «Колос не мыслил искусства своей прозы без учебы у Гоголя». Логіка саліднага дасьледчыка вядзе да таго, што, маўляў, беларусы аніяк не маглі і ня могуць пражыць без вялікай расейскай літаратуры. Вось тут і пачынаецца разьвіцьцё тэорыі панславізму, мэсіянскай ролі Расеі-вызваліцельніцы. Аднак у айчыннай літаратуры апошніх гадоў намецілася зусім іншая тэндэнцыя. Паэты і пісьменьнікі новае гэнэрацыі перасталі арыентавацца на маскоўскіх і піцерскіх ідэёлагаў панславізму, а зьвярнуліся да культуры Захаду, да эўрапэйскіх каштоўнасьцяў. Беларусь як незалежная дзяржава імкнецца ў Эўропу, таму мы павінны ня толькі адраджаць родную мову, але й ствараць на ёй арыгінальныя літаратурныя творы. І не абавязкова (як лічыць прафэсар В. Няфёдаў) «мы в Беларуси должны откликнуться на русскую литературу своей «национальной душой». Сапраўды аматар прыгожага пісьменства сам разьбярэцца, як яму ставіцца да таго ці іншага твора. Галоўнае — нічога нікому не навязваць.

Аднак шаноўны літаратуразнавец менавіта навязвае чытачам выцягнутую з бальшавіцкага куфэрка тэорыю зьліцьця нацый, абапіраючыся на самога Пушкіна, які нібыта «говорил о белорусах как о народе издревле близком великороссам».

Прафэсара В. Няфёдава непакоіць рост нацыянальнае самасьвядомасьці беларусаў, таму ён вырашыў «пудрыць» мазгі недасьведчаным чытачам мудрагелістымі фармулёўкамі накшталт: «Национальное самосознание, которое в своем ядре содержит гордость за Республику Беларусь,— это сознание разных национальностей». Цуда цуднае, дзіва дзіўнае! Выходзіць, што нацыянальная самасьвядомасьць — гэта нейкі кангламэрат самасьвядомасьцяў розных нацый. Атрымоўваецца звычайная бязглуздзіца! І гэта пацьвердзіў сам прафэсар В. Няфёдаў: «Каждая из них (национальностей — Ю. Г.) по-своему любит родную землю, у каждой нации свое ощушение или стиль государственного образа мыслей». Няўжо доктар філалогіі ня ведае, што нацыянальная сьвядомасьць ня можа быць сукупнасьцю самасьвядомасьцяў розных нацый, а сам тэрмін «н. с.» ужываецца заўсёды ў канкрэтным выпадку (напрыклад, нацыянальная самасьвядомасьць палякаў, расейцаў ці габрэяў і г. д.)? А мо прафэсар робіць наўмысна памылку? Хутчэй за ўсё. І вось мы маем дачыненьне ўжо не з кангламэратам, а маналітам — савецкай сьвядомасьцю.

Пасьля экскурсаў у гісторыю ды эквілібрыстыкі імёнамі класікаў аўтар напрыканцы свайго артыкула зьўяўляецца, нарэшце, перад чытачамі ў сапраўдным абліччы і дэкляруе: «Если русисты найдут формы эффективного сотрудничества с белорусами, они сохранят традиционный ореол русского языка, будут способствовать защите и реализации интересов многонационального русскоязычного населения...». Дык вось у чым справа! Толькі не зразумела: ад каго ці ад чаго русісты зьбіраюцца абараняць рускамоўнае насельніцтва? Хіба што ад саміх сябе...

Сумна, панове, чытаць падобныя артыкулы, якія апошнім часам надта ж часта вандруюць з газэты ў газэту ды падаграюцца артадаксальнымі прадстаўнікамі інтэлігенцыі панславісцкае арыентацыі. Хто ведае, мо яны выконваюць сацыяльны заказ палітычных групоўкаў, якія сумуюць па былой савецкай імпэрыі ды мараць зрабіць дзяржаўнай на Беларусі мову суседняй краіны? Як бы там ні было, але мастурбацыя імпэрскае ідэі навідавоку. Толькі шляхетныя інтэлігенты-русісты чамусьці называюць яе «рускай ідэяй». Відаць, гэтыя паняцьці тоесныя...

**Юры ГУМЯНЮК.**

### Ліст з вёскі

## ЭКСПЛУАТАЦЫЯ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

У незалежнай прэсе паведамлялася, што мы атрымліваем толькі 20% заробленых грошай, а 80% забірае ад нас дзяржава. Гэта значыць, што каля дзьвюх гадзінаў у дзень мы працуем на сябе, а астатні рабочы час на дзяржаву, на трутняў-бюракратаў, якія стаяць над намі й атрымліваюць высокія заробкі. У той час, як капіталіст, які эксплуатуе рабочых, бярэ сабе ўсяго 30%, а рабочыя атрымліваюць аж 70% ад зробленага.

У нашых калгасах эксплуатацыя куды больш пачварная. Зьвярнуся да канкрэтнага прыкладу. Калгас «Радзіма» Навагрудзкага раёна — яшчэ нядаўна ён называўся «Краіна Саветаў» — распачаў вырошчваць у мінулым 1992 годзе цукровыя буракі. Насельніцтва з радасьцю ўзялося даглядаць той палетак. На сям´ю выдзелілі ўсяго па адным радзе буракоў. Людзі старанна палолі, а ўвосень убралі ўраджай. Калгас заплаціў ім па 250 рублёў за тону, а сам здаў гэтыя ж буракі дзяржаве па 5000 рублёў за тону. Сяляне атрымалі своеасаблівы кукіш — усяго 5% атрыманага калгасам прыбытку за буракі. Дарэчы, для параўнаньня — за тону здадзеных кармавых буракоў калгас заплаціў вяскоўцам аж па 210 рублёў.

Савецкае прыгоннае права ў форме калгаснага ладу пакуль засталося. Эксплуатацыя сялянаў, жорсткая, безчалавечная, працягваецца. Таму й ня дзіва, што некаторыя вяскоўцы (ды і не толькі яны) людзі нашай краіны імкнуцца трапіць на сельскагаспадарчыя работы ў суседнюю Польшчу, да ўласьнікаў зямлі. І прывозяць адтуль даляры. Відавочна, што лепш быць парабкам у землеўласьніка, калі ён добра аплачвае наёмную працу, чым гнуць сьпіну за жабрацкі заробак у калгасах.

**А. ПЯТКЕВІЧ.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

